21 лістапада 2014 | № 44 (413)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Год афрыканскага Майдану

стар. 13

4 ПАЛЯВАННЕ НА ЛІШНЯГА ЧАЛАВЕКА

Сотні тысяч беларусаў, якія актыўна працуюць па-за дасягальнасцю падатковых органаў, сведчаць пра тое, што жыццё паступова сыходзіць з дзяржаўнай сістэмы

14–15 ПРАСТОРЫ АДАМА ГЛОБУСА

Адама Глобуса можна назваць самым спрэчным прадстаўніком беларускага бамонду...



11 БЫВАЙ, МОЙ ГЕНЕРАЛ!

Унук дыктатара Аўгуста ПінАчэта абвясціў пра стварэнне партыі, якая мае за мэту працягнуць справу дзеда



# Не стварайце прывідаў на сваю галаву

## Спробы знайсці сепаратызм там, дзе яго няма, могуць прывесці да таго, што ён усе ж такі ўзнікне



Сяргей ПУЛЬША

Нельга сказаць, што Аляксандр Рыгоравіч не зрабіў высноваў з украінскай сітуацыі. Гэта праяўляецца шмат у чым: у павышанай увазе да стану беларускага войска, у стрыманай дыпламатычнай пазіцыі наконт гэтага канфлікту, у спробах міратворчай дзейнасці. Але кіраўніка дзяржавы іншым часам «заносіць» не ў той бок.

Аляксандра Лукашэнку хвалююць магчымыя праявы сепаратызму ў Беларусі. Ён у чарговы раз казаў пра гэта, наведваючы Гродзенскую вобласць. «Сёння шмат размоў пра тое, што «ў нас не так добра, у нас дзесьці наогул дрэнна, а вось побач, у Польшчы, вунь як жывуць».

Паводле слоў Лукашэнкі, Польшча ды іншыя краіны пільна прыглядаюцца да Беларусі, асабліва да Гродзенскай вобласці. «Калі мне з Польшчы афіцыйныя асобы і іншыя пачынаюць казаць пра палякаў, я іх адразу пытаюся: вы пра якіх палякаў? Вы павінны запомніць, што ў Гродне палякі — гэта нашы палякі, і гэта іх зямля, і парабкамі нават там, дзе жывуць іх суайчыннікі, яны не будуць. Яны будуць гаспадарамі, але на гэтай зямлі», — заявіў Лукашэнка.

«Я падлашчвацца ні да каго не маю намеру. Заляцанні прыводзяць да развалу, распаду дзяржавы. Як толькі мы пачнём дзяліць нашу зямлю па нацыянальнай прыкмеце, вы ведаеце, як будзе, — прыклад на поўдні, — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы. — Гэта ваша зямля, і вы павінны клапаціцца, каб яна станавілася больш прыгожай і лепшай».

Між тым, гэта былі не проста словы. У чацвер, 13 лістапада, прымаючы з дакладам старшыню КДБ, Лукашэнка папрасіў даць інфармацыю аб сітуацыі ў Гродзенскай вобласці. «Мяне яна не проста насцярожвае... Я ведаю, што памкненні на Гродзенскую вобласць у асобных дзяржаў занадта празмерныя», — здзівіў правадыр усё грамадства.

Відавочна, што той «закідон» быў у бок Польшчы. Цікава, што ў гэты ж дзень кіраўнік дыпламатычнай місіі Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка даваў прэс-канферэнцыю з нагоды Дня незалежнасці Польшчы. І, у адрозненне ад мінулых гадоў, пан Шарэпка быў узрадаваны тым, як развіваюцца стасункі паміж Польшчай і Беларуссю.

Ён адзначыў, што яны зараз цяплейшыя, чым увогуле за апошнюю пяцігодку. Варшаву наведаў (і быў там прыняты) беларускі міністр замежных справаў Уладзімір Макей, што раней было немагчыма з-за санкцыяў ЕС. Прайшлі міжведамасныя кансультацыі МЗС абодвух бакоў, запрацавалі розныя профільныя працоўныя групы, паміж Беларуссю і ЕС ідуць перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму, а Польшча імкнецца спрасціць яго ўжо зараз: напрыклад, выдае беларусам двухгадовы «шэнген».

Занепакоенасць кіраўніка Беларусі можна было б апраўдаць старым пудзілам — «картай паляка», але і тут нічога небяспечнага не праглядаецца. Закон пра «карту паляка» ўступіў у дзеянне ў 2008 годзе. Канешне, пасол Польшчы спецыяльна падлікам не займаўся, але, па ягоных дадзеных, за прайшоўшыя з таго моманту шэсць гадоў у Беларусі было выдадзена блізу 70 тысяч гэтых картаў. Пры тым, што, па звестках польскага пасольства, у Беларусі лічаць сабе палякамі 12% насельніцтва, то бок больш мільёна чалавек. Мільён і 70 тысячаў — адчувальная розніца?




Адзіная праблема, якая бліжэйшым часам праглядаецца ў беларуска-польскіх адносінах — магчымыя змены ў беларускім Кодэксе аб адукацыі. Калі гэтыя змены будуць прынятыя, у школах, дзе частка прадметаў выкладаецца на польскай мове, значна скароціцца колькасць гэтых прадметаў і навучальных гадзінаў, якія будуць выкладацца па-польску. «Змены ў адукацыйным заканадаўстве могуць паўплываць на тое, што колькасць польскай мовы ў школах паменшыцца, гэта паўплывае на якасць адукацыі і, можа быць, на ўзровень ведаў палякаў, якія тут жывуць», — адзначыў Шарэпка.

А між тым, у гэтым годзе Польшча і Беларусь парафіравалі пагадненне аб адукацыі, і чакаецца, што яно неўзабаве набудзе моц. Такім чынам, і гэтая праблема вырашальная, бо беларускі адукацыйны кодэкс, па ідэі, не павінен супярэчыць міжнародным дамовам, і гэтай дамове ў тым ліку.

З аднаго боку, па меркаванні беларускіх экспертаў, справа не ў Гродне і не ў паляках. Справа ў прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Ніводная прэзідэнцкая кампанія не праходзіла без пошуку знешніх ворагаў, і гэтая кампанія, пэўна, не будзе выключэннем. Стварэнне «заходняга пудзіла», — звыклы прыём беларускай прапаганды.

З іншага боку, кіраўнік дзяржавы можа працаваць і «на апераджэнне». Відавочна, што скарачэнне колькасці гадзінаў і прадметаў, якія выкладаюцца па-польску, выкліча справядлівае абурэнне ў польскай меншасці. Гэтае абурэнне якраз можна інтэрпрэтаваць як «інспіраваныя заходнімі дзяржавамі» «праявы сепаратызму». Тады і «знешні вораг» знойдзецца, і праявы ягонай «варожасці» будуць навідавоку.

Але такая тактыка не прывядзе ні да чаго іншага, акрамя распальвання той самай варожасці і ўзнікнення таго самага «мяккага сепаратызму». Справа будзе не ў тым, што «ў Польшчы лепей». Проста паміж дэкларацыямі («палякі ў Беларусі — гэта нашы палякі») і справамі (абмежаванне польскага навучання) будзе вялікая розніца, якую грамадзяне Беларусі, палякі па нацыянальнасці, адчуюць на сабе.

І польская меншасць у Беларусі, у выпадку развіцця такога сцэнару, апынецца «ворагамі» і «сепаратыстамі». Прычым там, дзе ніякага сепаратызму не было і блізка.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ВІЦЕБСК. Семярых журналістаў будуць судзіць

**5 лістапада, у сусветны дзень «Станем за журналістыку», сябры ГА «БАЖ» сфатаграфаваліся на фоне будынка з малюнкамі-выявамі клетак, з якіх вылятаюць зробленыя з газеты птушкі.**

Цяпер удзельнікаў фотасесіі выклікаюць у Чыгуначны РАУС Віцебска і складаюць пратаколы за «ўдзел у несанкцыянаванай акцыі». У справе фігуруюць 7 чалавек — столькі прозвішчаў згадана ў міліцэйскіх матэрыялах.

Першыя суды маюць адбыцца ўжо 28 лістапада. У прыватнасці, у гэты дзень будуць судзіць журналістку Алену Сцяпанаву і актывістку аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Алену Шабуню. 1 снежня — каардынатарку аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Таццяну Севярынец і журналіста Кастуся Мардзвінцава.

**baj.by**

### БРЭСТ. Беларусы патрабуюць вызваліць Статкевіча

**Акцыі салідарнасці з палітычнымі вязнямі прайшлі ў Дзень салідарнасці ў чатырох гарадах Брэсцкай вобласці.**



У Брэсце, Бярозе, Кобрыне, Жабінцы актывісты расклеілі вялікія плакаты з партрэтам былога кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Мікалая Статкевіча. Яны з'явіліся на тумбах і дошках аб'яваў.

**Паводле charter97.org**

### ГРОДНА. Вольгу Крапоціну аштрафавалі на 4,5 мільёна

**Ленінскі суд Гродна прызнаў Вольгу Крапоціну вінаватай у незаконным вырабе і распаўсюдзе ўлётак з пратэстам супраць расійскай агрэсіі ва Украіне.**

Крапоціну затрымалі 19 верасня ў цэнтры Гродна побач з гатэлем «Нёман». Пры ёй было 17 улётак з тэкстам «Верните Крым! Руки прочь от Украины» і «Ганьба здраднікам Радзімы з «трыкалорам» у зубах. Пуцін вам далонь пацісне, як уздыме на штыках!», якія яна клала пад дворнікі аўто з расійскімі нумарамі. Па месцы яе жыхарства правялі ператрус, але болей нічога не знайшлі.

У судзе супраць Крапоцінай сведчыў нехта Уладзімір Гарэлаў, індывідуальны прадпрымальнік. Гарэлаў патлумачыў суду, што ўбачыў з вакна, як Крапоціна клала ўлёткі пад дворнікі ў машынах і выбег затрымаць дзяўчыну.

У судзе Крапоціна не адмаўляла, што сама надрукавала ўлёткі ў інтэрнэт-кавярні, паклала іх на шкло машыны і гэтым самым спрабавала данесці да грамадзян інфармацыю пра тое, што адбываецца ва Украіне. Але яна так і не зразумела, чым яе дзеянні адрозніваліся ад таго, як людзі штодня кладуць на тыя самыя аўта шматлікія рэкламныя матэрыялы.

Вольга Крапоціна з рашэннем суда не пагадзілася і заявіла, што будзе яго абскарджваць.

**Паводле svaboda.org**

### СЛОНІМ. Актывісты БХД падтрымалі палітвязня

**Яны сабралі сродкі ў падтрымку палітвязня Яўгена Васьковіча.**

«Гэтым мы выказалі падтрымку, у тым ліку і маральную, сябру, якога катуюць у засценках рэжыму», — адзначыў каардынатар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Іван Бядко.

Сродкі перададзеныя праз сустаршыню аргкамітэта БХД Паўла Севярынца.

**Прэсавая служба БХД**

# Мінкульт бяссільны спыніць знішчэнне Курапатаў

Марат ГАРАВЫ

**У ахоўнай зоне Курапатаў незаконна ўзводзяцца новыя аб'екты, і Міністэрства культуры нічога з гэтым не можа зрабіць. Да такой высновы прыйшлі прадстаўнікі грамадскасці пасля сустрэчы з міністрам культуры Барысам Святловым, што адбылася 12 лістапада ў Мінску.**



У сустрэчы з міністрам бралі ўдзел культуролаг Вацлаў Арэшка, археолаг, кандыдат гістарычных навук Валянціна Вяргей, грамадскі дзеяч і мованазнаўца Вінцук Вячорка, старшыня грамадскага аб'яднання «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» Вацлаў Нямковіч, грамадскі актывіст Алесь Макаў, а таксама карэспандэнт НЧ. На пытанні грамадскасці адказваў начальнік упраўлення па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі.

Згодна адказу Міністэрства культуры ад 6 сакавіка 2014 года на зварот грамадскасці, абавязак па распрацоўцы праекту зонаў аховы Курапатаў ускладзены на суб'екты гаспадарання, якія ў сваіх інтарэсах плануюць і ўзводзяць аб'екты гаспадарчага прызначэння на недатыкальнай тэрыторыі ахоўнай зоны каштоўнасці па часовай схеме зонаў аховы Курапатаў ад 12 мая 2004 года.

Прыклады такога будаўніцтва: аб'екты прыдарожнага сервісу з былой назвай «Бульбаш-хол», выпраставанне гістарычнай дарогі на вёску Драздова, узвядзенне ачышчальных збудаванняў з вадаёмам і падрыхтоўка пляцу для аўтастаянкі (каля катэджнага пасёлку «Сонечны»), праектаванне і будаўніцтва на полі з усходняга боку Курапатаў Міжнароднага выставачнага цэнтру, што пагражае знішчэннем гістарычнай «Дарогі смерці» — апошняга шляху ахвяраў на згубу.

Каб прывесці гэтую сітуацыю ў адпаведнасць з Законам «Аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь», патрэбна надаць дзеючай часовай схеме зонаў аховы Курапатаў статус канчатковага праекта зонаў аховы гэтай каштоўнасці. Прычым пры правядзенні гэтай працэдуры неабходна абавязкова захаваць існуючыя межы ахоўнай зоны з абавязковым уключэннем участку «Дарогі смерці» з элементам гістарычнага ландшафту паміж МКАД і дарогай Заслаўе — Калодзішчы як неад'емных гістарычных фрагментаў помніка, — лічаць аўтары звароту. Міністр культуры пагадзіўся з аргументамі за мемарыялізацыю «Дарогі смерці».

Тэрыторыя ахоўнай зоны па закону, нагадалі актывісты падчас сустрэчы, можа быць выкарыстана толькі для ажыццяўлення мерапрыемстваў, звязаных з мемарыялізацыяй гістарычна-культурнай каштоўнасці.

Гэтую заяву прадстаўнікоў грамадскасці Ігар Чарняўскі пракаментаваў так: «Усё правільна, аднак д'ябал хаваецца ў дробязях». Сярод такіх «дробязяў» чыноўнік пазначыў тое, што з супрацоўнікамі Міністэрства культуры не заўсёды ўзгадняюць пытанні па землеадводу, і ўвогуле дзяржаўныя службоўцы гэтага міністэрства не маюць аніякіх іншых мажлівасцяў, апроч адміністрацыйных штрафаў, каб паўплываць на сітуацыю з самабудам у Курапатах.

Аднак Ігар Чарняўскі так і не змог даць яснага адказу на неаднаразовае пытанне карэспандэнта НЧ пра тое, ці штрафаваліся парушальнікі недатыкальнасці ахоўнай зоны Курапатаў.

У функцыі Міністэрства культуры ўвогуле не ўваходзіць ахова помнікаў, а чыноўнікі гэтага міністэрства займаюцца толькі ўзгадненнем адпаведных дакументаў, заявіў Ігар Чарняўскі.

Але калі так, дык чаму дэпартамент, якім кіруе спадар Чарняўскі, называецца ўпраўленнем па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры?

Грамадскія актывісты так і не пачулі выснага адказу на галоўнае пытанне — калі ж з'явіцца канчатковы праект зонаў аховы Курапатаў? Магчыма, чыноўнікі пра гэта напішуць у сваім пісьмовым адказе прадстаўнікам грамадскасці.

# Да ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну

**Заяўка на правядзенне мерапрыемстваў, прымеркаваных да ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну, пададзена ад імя старшыня Партыі БНФ Аляксея Янукевіча і кіраўніка слуцкай арганізацыі партыі Віталя Амяльковіча.**

Плануецца, што 29 лістапада ўрачыстыя сходы ў памяць слуцкіх паўстанцаў адбудуцца ў мястэчках, звязаных з падзеямі 1920 года, — у Грозаве, Семежаве і Вызне (Чырвоная Слабада). Таксама пададзена заяўка ў Слуцкі гарвыканкам на правядзенне мітынгу і ў самім Слуцку.

Як адзначае Янукевіч, паводле заканадаўства цяпер забаронена да атрымання дазволу ўладаў паведамляць пра канкрэтныя час і месца правядзення масавых мерапрыемстваў. «Мы чакаем, што адказы на заяўкі пра правядзенне мітынгаў павінныя быць дадзеныя не пазней за 24 лістапада. Слуцкае паўстанне — адзін з найяскравейшых прыкладаў праявы мужнасці і адвагі беларусаў, які вельмі актуальны цяпер у сітуацыі відавочнай пагрозы нашай незалежнасці з боку агрэсіўнай Расіі», — адзначыў ён.

Паводле слоў Янукевіча, у апошнія гады ўлады дазвалялі мітынгі ў Слуцку, але пераследавалі ўдзельнікаў памятных мерапрыемстваў у іншых мясцінах Случчыны. Разам з тым, зазначыў ён, у 2012 годзе мітынг быў забаронены.

«Таму, каб мінімізаваць рызыку рэпрэсіяў, мы падрыхтавалі заяўкі на правядзенне сходаў ва ўсіх месцах, дзе плануецца ўскладанне кветак і ўрачыстыя мерапрыемствы ў гонар герояў паўстання. Але мы таксама разумеем, што пры набліжэнні важных палітычных падзеяў, такіх, як маючая адбыцца кампанія па выбарах прэзідэнта, павялічваецца верагоднасць супрацьдзеяння з боку ўладаў. Акурат цяпер ажыццяўляецца пераслед сябраў Партыі БНФ, што сёлета ў кастрычніку бралі ўдзел ва ўшанаванні герояў паўстання Каліноўскага ў Свіслачы», — сказаў Янукевіч.

Слуцкі збройны чын 1920 года быў спробай абароны незалежнасці Беларусі ў раёне Слуцка. На працягу месяца, у лістападзе-снежні, ваенныя атрады, сфармаваныя пераважна з мясцовых сялян, аказвалі супраціў савецкім войскам.

**БелаПАН**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Раз’яднаная апазіцыя,
## ці Чарговы туз у руках Лукашэнкі

Генадзь КЕСНЕР

**Відаць, ужо можна казаць пра тое, што адзіны кандыдат ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года наўрад ці з’явіцца. У сваю чаргу, афіцыйны беларускі лідар, бадай, і так ясна разумее, што прыстойнага канкурэнта падчас наступнай электаральнай кампаніі не прадбачыцца. Таму асабліва і не завіхаецца над тэмай выбараў. У яго зараз іншыя праблемы.**

Напрыклад, праблема Украіны. Беларускі правадыр скарыстаўся сітуацыяй вакол нашай паўднёвай суседкі — ён стаўся ледзьве не галоўным міратворцам Еўропы і страціў статус «апошняга дыктатара» кантынента. Балазе, паняцце «мінская перамоўная пляцоўка» ўжо ўвайшло ў аналы найноўшай рэгіянальнай гісторыі. Толькі вось паводзіны Расіі могуць абрынуць Аляксандра Лукашэнку з «трона міратворцы». Бо мінскія дамоўленасці не выконваюцца. Паспрабуйце здагадацца, кім.

Таму і казаў нервова пра сваю заклапочанасць сітуацыяй на Украіне беларускі кіраўнік на сустрэчы з расійскім міністрам замежных справаў Сяргеем Лаўровым у Мінску 18 лістапада. Натуральна, гаварыў Лукашэнка ўсё ў прарасійскім рэчышчы. «Мы не можам пагадзіцца з той актыўнасцю, якая сёння мае месца з боку заходніх дзяржаваў на заходніх межах нашай саюзнай дзяржавы. Мы не можам пагадзіцца з тэндэнцыяй пагаршэння сітуацыі на Украіне, не толькі ў Данбаскім, Данецкім рэгіёне, але і цалкам ва Украіне», — кляўся Лукашэнка. І дадаў, што праблемы Беларусі і Расіі — непадзельныя. «Нашы праблемы — гэта і вашы праблемы, а вашы праблемы — гэта нашы праблемы. Гэта ціск на Беларусь, які далёка не абыякавы для Расіі, натуральна, гэта ціск і на Расійскую Федэрацыю, у якой і так праблем дастаткова», — адзначыў кіраўнік Беларусі.

Ну, канешне. Тое, што адбываецца апошнім часам у расійскай эканоміцы і фінансавай сістэме пасля ўвядзення міжнародных санкцыяў, можа вельмі моцна ляснуць па афіцыйным Мінску, і Лукашэнка як ніхто гэта разумее. Імклівая дэвальвацыя расійскага рубля ўжо паставіла ў яшчэ больш няроўныя ўмовы суб’екты гаспадарання Беларусі і Расіі на карысць апошняй, а цяжкая эканамічная сітуацыя Масковіі можа пазбавіць Сінявокую датацый ды інвестыцый ад «старэйшай сястры». Таму афіцыйны лідар і спрабуе чарговым разам напоўніць вербальным елеем чарку высокага маскоўскага чыноўніка. Раптам яшчэ штосьці перападзе?

А ў гэты час апаненты Лукашэнкі чарговым разам узгадалі, што праз год мае адбыцца самая важная электаральная кампанія пяцігодкі. Хоць вымалёўваецца карціна, што «адзінага кандыдата» ад апазіцыі мы і ў наступным годзе не ўбачым. Спачатку лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч заявіў, што вылучэнне «адзінага» наўрад ці будзе магчымым. А ўжо 17 лістапада журналістаў склікаюць на «тэрміновую» (у чым была тая тэрміновасць — не зразумела) прэс-канферэнцыю ў офіс Партыі БНФ, дзе ўжо гаворыцца пра тое, што пяць апазіцыйных структураў падпісалі пагадненне аб працэдуры вылучэння «адзінага». Гэтыя структуры — усё тая ж Партыя БНФ, Рух «За Свабоду», грамадзянская кампанія «Гавары праўду», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), а таксама аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». Прычым сустаршыня БХД Павел Севярынец не з’явіўся на імпрэзе.

Аказваецца, калі верыць спецыяльнай заяве, апублікаванай на сайце БХД, гэтай прэс-канферэнцыі ўвогуле не павінна было быць да 1 снежня. Пазіцыю гэтай арганізацыі адносна кангрэсу дэмакратычных сіл, на рэалізоўваць і не публікаваць. Паводле агульнай дамоўленасці, рашэнне аб рэалізацыі працэдуры прымаецца мінімум шасцю структурамі з сямі (кансенсус мінус 1). На сённяшні дзень толькі ў такім фармаце беларускія хрысціянскія дэмакраты гатовы ўдзельнічаць у Кангрэсе. Удакладняем: меркаваны час Кангрэсу ў падпісаным праекце працэдуры — сакавік, а не травень 2015 года. Лічым інсінуацыі на тэму правядзення Кангрэсу да прыняцця канчатковага рашэння заўчаснымі».

Вам усё зразумела? У сваю чаргу, старшыня АГП Анатоль Лябедзька не выключае, што апазіцыя пойдзе на выбары некалькімі калонамі, паколькі дасягнуць пагаднення аб «сапраўды адзіным кандыдаце» не ўдаецца. Замест уласнага каментара, які так і просіцца, прывязу меркаванне старшыні Рады беларускай інтэлігенцыі, вядомага педагога і рэжысёра Уладзіміра Коласа.

«Дваццаць гадоў такой безвыніковасці і няздольнасці кансалідавацца ставяць пытанне аб прафесійнай адпаведнасці тых, хто гэтым займаецца. Справа не ў тым, каб збірацца на соймы і бясконца пераконваць адзін аднаго ў тым, што патрэбны перамены, а ў тым, каб гэтыя перамены ажыццявіць. А для таго, каб дабіцца гэтых пераменаў і ахвяраваць сваімі асабістымі амбіцыямі, трэба быць на гэта здольным. Паколькі ніхто такіх здольнасцяў не дэманструе, то варта ставіць пытанне аб ратацыі, і трэба, каб на іх месцы прыйшлі тыя, у каго гэта лепш

**Дваццаць гадоў такой безвыніковасці і няздольнасці кансалідавацца ставяць пытанне аб прафесійнай адпаведнасці тых, хто гэтым займаецца. Справа не ў тым, каб збірацца на соймы і бясконца пераконваць адзін аднаго ў тым, што патрэбны перамены, а ў тым, каб гэтыя перамены ажыццявіць**

якім, па словах выступоўцаў на сустрэчы з журналістамі, мае быць абраны «адзіны», варта працягваць поўнасцю.

«17 лістапада прадстаўнікі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Партыі БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), «Гавары праўду» і Руху «За Свабоду» падпісалі праект працэдуры, паводле якой можа быць праведзены кангрэс дэмакратычных сіл. На сустрэчы прадстаўнікі ўсіх сямі дэмсілаў (разам з Аб’яднанай грамадзянскай партыяй і Беларускай партыяй левых «Справядлівы свет»), якія ўдзельнічаюць у кансультацыях, дамовіліся да 1 снежня 2014 года чакаць вызначэння пазіцый АГП і «Справядлівага свету» і да гэтага рашэнне не атрымаецца. Бо яшчэ з мінулых выбараў ясна, што гэтыя хлопцы справы не зробяць», — упэўнены Уладзімір Колас. «Што тут дадаць? Хіба што нічога», як спяваў Лявон Вольскі ў «Народным альбоме».

І, пад канец, нешта прыемнае. Мы так адвыклі ад перамог нацыянальнай зборнай па футболе, што нават не разлічвалі, што, хоць і ў таварыскай гульні, але наша дружына можа перамагчы салідную каманду. Тым не менш, гэта здарылася ўвечары 18 лістапада на «Барысаў-Арэне». Беларусы з лікам 3:2 пабаролі не кагосьці невядомага, але саму зборную Мексікі. Гэта была апошняя гульня нашых «нацыянальнікаў» у гэтым сезоне. Моцная кропка. Вось так бы і далей.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алесь Бяляцкі

**Беларускія ўлады парушылі правы Алеся Бяляцкага на свабоду, асабістую недатыкальнасць, справядлівае судовае разбіральніцтва і свабоду асацыяцыяў.**

Праваабаронцу асудзілі незаконна, вырашылі ў ААН, калі пазбавілі рэгістрацыі Праваабарончы цэнтр «Вясна», а самога Бяляцкага прыцягнулі да крымінальнай адказнасці за няўплату падаткаў. Да такой высновы прыйшоў Камітэт па правах чалавека ААН па выніках разгляду скаргі, якую падавала жонка праваабаронцы Наталля Пінчук. Нагадаем, што пасля пазбаўлення рэгістрацыі «Вясна» тройчы звярталася ў Мінюст і кожны раз атрымлівала адмову ў новай рэгістрацыі арганізацыі. Немагчымасць адкрыцця банкаўскіх рахункаў у Беларусі для фінансавання сваёй дзейнасці ў выніку змусіла «Вясну» мець рахункі за мяжою. Гэта фактычна і прывяло да таго, што кіраўніка «Вясны» абвінавацілі ў нявыплаце падаткаў, хоць у судзе шматкроць даказвалася, што гэта не былі ўласныя сродкі Бяляцкага, але грошы, што ішлі на арганізацыю. Вядома, як улады ў Беларусі ставяцца да праваабаронцаў, апошні прыклад з рашэннем выдварыць з краіны Алену Танкачову добра сведчыць пра гэтае стаўленне. Намеснік Бяляцкага Валянцін Стэфановіч назваў рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН «гістарычным». Але хто кампенсуе Бяляцкаму амаль тры гады жыцця, праведзеныя ў вязніцы?

## Уладзімір Макей

**Міністр замежных справаў Беларусі прапануе дамаўляцца «хоць з Богам, хоць з чортам».**



Уладзімір Макей падчас сустрэчы са сваім расійскім калегам Сяргеем Лаўровым 18 лістапада ў беларускай сталіцы заявіў, што мінскія пагадненні па Украіне не выконваюцца, а бакам варта сядаць, дамаўляцца і прыходзіць да рэальных пагадненняў. «Ва Украіне логіка вайны дамінуе над логікай міру. Дамоўленасці, якія былі дасягнутыя ў Мінску, абсалютна не выконваюцца, навідавоку яўная эскалацыя ўзброенага супрацьстаяння. Хтосьці з кімсьці не хоча сядаць за стол перамоваў. Але калі гаворка вядзецца пра смерць многіх людзей, трэба сядаць і дамаўляцца хоць з Богам, хоць з чортам», — заявіў Макей. Хочацца параіць высокаму чыноўніку не згадваць ні першага, ні другога без дай прычыны. Даваць такія парады Лаўрову — усё роўна што імкнуцца абагнаць уласны цень. Хіба Макей не ведае, хто стаіць за сепаратыстамі і хто пастаўляе зброю на Данбас? І Бог, і нячысцік тут не пры чым.

## Анатоль Тозік



**Народ абураецца пастаяннымі неардынарнымі ідэямі віцэ-прем’ера. Грамадзяне сабралі дзве тысячы подпісаў пад зваротам да ўраду з заклікам не разглядаць прапанову Анатоля Тозіка пра стопрацэнтную аплату дзіцячых садкоў.**

Тозік прапаноўвае абавязаць спаўна аплачваць наведванне садку для тых бацькоў, чые дзеці не дасягнулі трохгадовага ўзросту. Паводле віцэ-прэм’ера, у гэты час маці знаходзіцца дома ў аплатным адпачынку, а таму сама павінна даглядаць дзіця.

Тозік вядомы шматлікімі струменямі дзяржаўнай свядомасці, напрыклад, яго не так даўно апанавала ідэя ўвесці плату за наведванне паліклінік. Толькі вось высокапастаўлены чыноўнік, відаць, забыўся, што ёсць такая рэч, як Канстытуцыя, паводле якой медыцына і адукацыя, у тым ліку і дашкольнае знаходжанне дзяцей у садках, бясплатныя. Пра тое, як гэтыя пастулаты Асноўнага закону выконваюцца, лепш прамаўчым. Але застаецца адчуванне, што нашы ўрадаўцы зусім адарваліся ад жыцця і не разумеюць патрэбаў падаткаплатнікаў, за кошт якіх жывуць.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Паляванне на лішняга чалавека

**Сотні тысяч беларусаў, якія актыўна працуюць па-за дасягальнасцю падатковых органаў, сведчаць пра тое, што жыццё паступова сыходзіць з дзяржаўнай сістэмы.**




Падставай для напісання гэтай «Азбукі паліталогіі» стаў савецкі мульцік «Казлянё, якое лічыла да дзесяці». Пра што ён? Пра ролю ўліку працоўных рэсурсаў у падтрыманні сацыяльнай стабільнасці. Гэтую ролю сёння многія не да канца разумеюць і недаацэньваюць. Адсюль паўстае жывёльны страх перад дзяржавай-кантралёрам, якая імкнецца «дайсці да кожнага».

Між тым, гісторыя ўліку працоўных рэсурсаў старая як свет. Абмяжуюся прыкладам з кнігі гісторыка Марціна ван Крэвельда «Росквіт і заняпад дзяржавы»: «У элiнiстычным Егiпце, калi меркаваць па адным дакуменце, якi дайшоў да нас, сiстэма iмператарскага кантролю, што стала магчымай дзякуючы гэтым сродкам, была такой жорсткай, што нават прастытутка, якая прагне працаваць па спецыяльнасці ў сваім горадзе хоць бы адзін дзень, павінна была падаць прашэнне на ліцэнзію і, верагодна, мусіла заплаціць за яе». Пад «гэтымі сродкамі» ў дадзеным выпадку маюцца на ўвазе перапіс насельніцтва і сістэма ганцоў, што аператыўна дастаўлялі указы імператараў са сталіцы ў правінцыі.

## Кадры вырашаюць усё і ўсё правальваюць

А цяпер перанясемся ў Гродзенскую вобласць, якую 14 лістапада з рабочым візітам наведаў адзіны палітык (АП). Далей прыводжу фрагмент прэс-рэлізу, запазычаны на сайце president.gov.by: *«По его словам, почти треть населения в приграничных районах нигде толком не работает и живет за счет поездок в соседние страны Европы. «Куда это годится, что мы порождаем? Поколение спекулянтов, которое плодит теневую экономику? От таких «предпринимателей» дельных инвестиций не дождешься»,* — падкрэслiў глава государства».

Адчуваеце розніцу?! У элiнiстычным Егiпце прадстаўніца найстаражытнейшай прафесіі і дня не магла папрацаваць, не зарэгістраваўшыся. У Гродзенскай вобласці па-за дзяржаўнай сістэмай уліку зарабляе сабе на жыццё кожны трэці. Агульная ж колькасць беларусаў, незадзейнічаных дзяржавай «на поўную катушку», па інфармацыі АП, — каля 500 тысяч.

«Кадры вырашаюць усё!» — любіў паўтараць бацька савецкай камандна-адміністрацыйнай сістэмы. Але кадры, дадам ад сябе, здольныя і заваліць любую даручаную справу. Як тут ні пагадзіцца са старшынёй Камітэта дзяржаўнага кантролю Леанідам Анфімавым, які растлумачыў невыкананне асноўных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця ў бягучым годзе неарганізаванасцю, някемлівасцю, марнатраўствам і залішняй самаўпэўненасцю кіраўнічых кадраў.

Перад кадрамі з такім букетам характарыстык АП і паставіў задачу да 1 студзеня «прымусіць усіх працаваць». Асабіста я сумняваюся ў дзеяздольнасці кадраў. АП — не кесар Аўгуст, а сучасным губернатарам далёка да консула Квірынія. Свой сумнеў растлумачу цытатай з Евангелля ад Лукі: «У тыя дні выйшаў загад ад цэзара Аўгуста зрабіць перапіс па ўсёй зямлі. Гэта быў першы перапіс падчас панавання Квірынія ў Сірыі. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад. Пайшоў таксама і Юзаф з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давіда, званы Бэтлеем, бо ён быў з дому і роду Давіда, каб запісацца з Марыяй, заручанай з ім, якая была цяжарнай».

Такі ўзровень асабістай адказнасці пры правядзенні перапісу ў нашы дні немагчымы. Звярніце ўвагу: Юзаф не чакае, калі да яго прыйдуць перапісчыкі, а адпраўляецца з цяжарнай жонкай у шматдзённае цяжкое падарожжа. Такі ў той часы быў парадак, і ён няўхільна выконваўся: «І пайшлі ўсе запісвацца». Слова «ўсе» ў дадзеным выпадку з'яўляецца ключавым.

## Дынамічная сучаснасць

Безумоўна, арыфметычныя здольнасці сучасных чыноўнікаў пераўзыходзяць здольнасці казляняці з мульціка, і да эмацыйнага тлумачэння кіраўніка КДК варта ставіцца з пэўнай доляй скептыцызму. Але з біблейскіх часоў шмат вады сплыло. Сучаснае грамадства ўжо з цяжкасцю размяшчаецца ў дзяржаўных межах. Кажучы навукова, «сацыяльнае як грамадства» на нашых вачах трансфармуецца ў «сацыяльнае як мабільнасць».

Згодна з сацыёлагамі НІСЭПД, у кожнай чацвёртай беларускай сям'і на момант апытання (верасень 2013 г.) хто-небудзь працаваў за мяжой. Акрамя таго, ад 40 да 45% рэспандэнтаў пастаянна дэкларуюць сваю гатоўнасць пераехаць у іншыя краіны на ПМЖ (да 65% сярод моладзі ад 18 да 29 гадоў).

Канкурэнцыя ў наш час распаўсюджваецца не толькі на тавары і паслугі, але і на працоўныя рэсурсы, якія пасля падзення «жалезнай заслоны» атрымалі магчымасць «галасаваць нагамі». АП гэта разумее. Адсюль зварот да польскай тэмы падчас наведвання Гродзенскай вобласці: *«Не мне вам объяснять, как живут в Польше. Это вы знаете лучше, и, если вы еще здесь до сих пор живете, значит, вы сделали правильный вывод. Там хорошо, где нас нет».*

Праблема, аднак, заключаецца ў тым, што займеннік «нас» імкліва страчвае былую вызначанасць. Пра каго ў дадзеным выпадку ідзе гаворка, пра «вертыкальшчыкаў»? Тады варта пагадзіцца з АП. Эканамічны поспех несумяшчальны з «вертыкальным» прынцыпам арганізацыі жыцця, і міжнародная статыстыка гэта пацвярджае.

Але калі гаворка ідзе пра народ, то сучасны народ — гэта абстрактная сума індывідаў, якая не мае нічога агульнага з «адзіным народам», пра які рэгулярна разважае АП. «Ісціна, — адзначаў за 350 гадоў да нашай эры Арыстоцель у «Палітыцы», — палягае ў тым, што поліс з'яўляецца сукупнасцю многіх чальцоў». І гэтыя чальцы аб'ядноўваюцца ў групы з рознымі інтарэсамі. Больш за тое, кожная група сёння імкнецца набыць уласную дынаміку.

Сучаснасць стала бягучай, дынамічнай, таму спробы надаць ёй загадзя зададзеную форму аказваюцца ўсё менш прадуктыўнымі. «Грамадская большасць не накіравана на каланізацыі прыватнага. Якраз наадварот: менавіта прыватнае каланізавала грамадскую прастору, выціскаючы і выганяючы ўсё, што не можа быць цалкам, без астатку, выказана ў паняццях прыватных інтарэсаў, клопатаў і імкненняў», — сцвярджае польскі мысляр Зыгмунт Бауман.

## Новае — гэта добра забытае старое

Але вернемся да народу, або папуляцыі, у тэрміналогіі гісторыкаў Юрыя Піваварава і Андрэя Фурсава. Народ па вызначэнні пазбаўлены суб'ектных характарыстык, што не перашкаджае яму высоўваць са сваіх шэрагаў лепшых прадстаўнікоў, з якіх і фармуецца ўлада. Вось як гэты працэс апісаў АП, завяршаючы 17 кастрычніка прэс-канферэнцыю журналістам расійскіх СМІ: *«Все мы, дорогие мои мужики и девчонки, пришли оттуда, от того простого обычного дерьма, в котором ковыряется большая часть сегодняшнего нашего общества, которому мы не создали нормальные условия для жизни. Это надо помнить всегда».*

Але акрамя ўлады і папуляцыі ў айчыннай гісторыі пастаянна прысутнічае трэці элемент — лішні чалавек (як тут ні прыгадаць школьны курс рускай літаратуры з яе Анегіным, Пячорыным і Базаравым). Лішні чалавек — гэта індывіды або групы, якія не «перамолатыя» ўладай і таму не сталі ні яе органам, ні часткай папуляцыі.

Калі наша Улада (прапісная літара ў гэтым выпадку абавязковая) ёсць спосаб усёпранікальнага кантролю над жыццём папуляцыі, то лішні чалавек — гэта мера незавершанасці сістэмы, пастаянны напамін Уладзе пра тое, што яна не здольная ўстаць поруч са сваімі вялікімі папярэднікамі — Аўгустам і Квірыніем.

Улада пазбаўленая рычагоў уплыву на лішніх людзей, колькасць якіх у памежных рэгіёнах Беларусі дасягнула ўжо адной трэціны. Адсюль патрабаванне АП *«любыми способами, которые мы знаем и умеем делать, заставить этих людей работать!»* Тэрмін — да 1 студзеня.

Творчых прапаноў з боку профільных ведамстваў доўга чакаць не давялося. У прыватнасці, у МУС прапанавалі дапоўніць Адміністрацыйны кодэкс артыкулам, у адпаведнасці з якім ухіленне паўналетняга працаздольнага грамадзяніна, які пастаянна пражывае на тэрыторыі краіны, больш за шэсць месяцаў на працягу года ад фінансавання дзяржаўных выдаткаў павінна пацягнуць санкцыі ў выглядзе адміністрацыйнага арышту.

Аўтары ноў-хаў абгрунтоўваюць радыкальнасць сваёй прапановы спасылкай на арт. 56 Канстытуцыі, якая абавязвае грамадзян прымаць удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты дзяржаўных падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў. Прэс-сакратар МУС К. Шалькевіч падкрэсліў, што гэта толькі адна з высунутых міністэрствам прапаноў. Але пакуль увесь спіс не абвешчаны, я дазволю сабе скарыстацца паўзай, каб нагадаць знакамітую формулу: «Новае — гэта добра забытае старое». У нашым выпадку прапануецца замена падаходнага падатку падушным.

Калі падаходны падатак выплачваецца з даходаў і ўласнасці, што і дазваляе грамадзянам працаваць «у ценю», застаецца недасягальнымі для падатковай інспекцыі, то падушны падатак спаганяецца з кожнага чалавека па выніках перапісу. У Старажытным Рыме ён быў вядомы пад назвай «capitatio». У Расіі падушны падатак увёў Пётр І. Ён жа пачаў пагалоўны перапіс падданага насельніцтва.

Кола замкнулася, і мы зноў вярнуліся да праблемы, узнятай у мультфільме «Казлянё, якое лічыла да дзесяці», г.зн. да праблемы якасці сучаснай беларускай эліты. Аказваецца, бескарыслiва лічыць да дзесяці (як, зрэшты, і да любой зададзенай лічбы) не так проста.

«У Расіі не крадзе толькі адзін чалавек — гэта я», — пастаянна падкрэсліваў імператар Мікалай І. Але першая асоба дзяржавы — гэта Улада з вялікай літары. Што да рускай улады з малой літары, дык публіцыст і крытык Вісарыён Бялінскі называў яе *«корпорацией служилых воров».*

Наколькі праблема ўзаемаадносін вялікай і малой літары «ў» характэрная для беларускай мадэлі — не мне вырашаць. Сам жа АП падымае яе рэгулярна. Апошні раз у ходзе наведвання Гродзенскай вобласці 14 лістапада.

# Больш казаць пра любоў

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**У гатэлі «Манастырскі» 13–14 лістапада прайшла міжнародная прэс-канферэнцыя пад назвай «Несмяротнае пакаранне: вытокі адказнай пазіцыі».**

Арганізатарамі мерапрыемства сталі «Penal Reform International», РПГА «Беларускі хельсінкскі камітэт», ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», Міжканфесійная місія «Хрысціянскае сацыяльнае служэнне» і Інфармацыйны цэнтр Савета Еўропы. Сярод дыскутуючых бакоў былі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, Генеральнай пракуратуры, Вярхоўнага Суда, Палаты прадстаўнікоў. Да ўдзелу ў мерапрыемстве адмыслова былі запрошаны госці-эксперты не толькі з розных куткоў Беларусі, але і з краін-суседак.

На працягу прэс-канферэнцыі рэфрэнам гучала: колькасць забойстваў у Еўропе, дзе няма смяротнага пакарання, меншая, чым у Беларусі, дзе такая мера прысуду яшчэ існуе. Дык ці ёсць гэта эфектыўны сродак перавыхавання?

Вялікую ўвагу канферэнцыя надала рэлігійным аспектам праблемы смяротнага пакарання, для абмеркавання якіх была створана спецыяльная секцыя «Права на жыццё: рэлігійны і свецкі светапогляд». Каб прачытаць свае даклады на гэты конт, у Мінску сабраліся прадстаўнікі розных беларускіх і замежных канфесій.

Такая ўвага зусім не выпадковая, бо менавіта гэтыя аспекты выяўляцца адной з асноўных супярэчнасцяў праблемы смяротнага пакарання. Згодна з сацыялагічным даследаваннем бізнес-цэнтра «SATIO» за 2014 год, 41,9% беларусаў хоча пакінуць вышэйшую меру прысуду ў нашай краіне. Прытым вядома, што каля паловы насельніцтва Беларусі з'яўляецца вернікамі.



Фота аўтара

Адзін з прадстаўнікоў праваслаўнай царквы, пратаіерэй Сяргей Лепін вызначыў тры асноўныя прычыны нязгоды царквы з існуючай вышэйшай мерай прысуду: незваротнасць смяротнага пакарання, немажлівасць пакаяння і верагоднасць судовай памылкі. Па словах пратаіерэя, праваслаўная царква не раз намагалася змяніць становішча: «Мы кажам пра гэта, а нам у адказ сцявярджаюць, што мы маўчым».

Паводле польскага ксяндза, прафесара Зігфрыда Глезера, «смяротнае пакаранне — гэта дыспрапарцыйны адказ, а не справядлівы». На пытанне пра тое, ці звязана адмена найвышэйшай меры прысуду ў Польшчы з рэлігійнасцю краіны, ён адказаў так: «Не магу сказаць, што толькі з гэтым. Мяркую, што на існаванне смяротнага пакарання ў пэўнай краіне ўплываюць перш за ўсё два фактары: недастатковая рэлігійнасць грамадства і яго няспеласць».

На погляд ксяндза Мікалая Ціхановіча, калі разглядаць няспеласць грамадства з пункту гледжання хрысціянства, то ў выхаваўчым працэсе моладзі відавочна бракуе любові. «Мы павінны больш казаць пра любоў», — цвердзіў ксёндз.

Сухія даклады прадстаўнікоў рэлігійных канфесій знайшлі працяг у жывых і цікавых дыскусія. Вынік доўгай гутаркі — неабходнасць задумацца пра святасць чалавечага жыцця. «Святасць жыцця на рэферэндуме не павінна разглядацца ўвогуле», — прагучала ў дыскусіі. Чаму ж не чуюць голас Царквы?

Такім чынам, выступоўцы наткнуліся на камень супярэчнасці: пытанне смяротнага пакарання павінна вырашацца на рэферэндуме, але ў той жа час соцыум мусіць саспець для гэтага. Таму напрошваецца пытанне: які сэнс патрабаваць, каб праблема была вынесена на рэферэндум, калі грамадства яшчэ духоўна не саспела для гэтага?

Напрыканцы ксёндз Зігфрыд Глезер заклікаў усіх «казаць адным голасам — тады ён будзе пачуты». З упэўненасцю можна сказаць, што гэта прадстаўнічая канферэнцыя сталася першым выразным гукам у паступова набіраючым моц голасе за адмену смяротнага пакарання.

# Дзве кнігі: задумацца пра смяротнае пакаранне

Сяргей ПУЛЬША

**На канферэнцыі «Несмяротнае пакаранне: вытокі адказнай пазіцыі» дэпутат Палаты прадстаўнікоў Мікалай Самасейка выказаў меркаванне, што час для адмены смяротнага пакарання альбо мараторыя на яго яшчэ не прыспеў. Бо грамадства на тое не гатовае. Але не прапанаваў нічога, каб змяніць сітуацыю. Затое прапанавалі іншыя. Праваабаронца Валер Філіпаў падчас канферэнцыі прэзентаваў дзве кнігі, прысвечаныя гэтай праблематыцы.**

Першая — «Адмена смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь» — толькі-толькі пакідае друкарню. Пабудаваная кніга даволі цікава. Традыцыйна, як і на іншых сваіх падобных выданнях, Валер Філіпаў на вокладцы змясціў ікону. Красамоўную: «Мікалай Мерлікійскі збаўляе ад смерці траіх бязвінна асуджаных». Адпаведны і змест першай часткі: вітанне да канферэнцыі Мітрапаліта Філарэта, зварот архіепіскапа Тадэвуша Кандрусевіча, пасланне ўдзельнікам 5-га кангрэса супраць смяротнага пакарання Папы Рымскага Францішка і гэтак далей.

Другая частка — зборнік выступаў святароў на канферэнцыі «Рэлігія і смяротнае пакаранне», якая прайшла ўвесну гэтага года ў межах Тыдня супраць смяротнага пакарання. А паколькі «сухія выступы» і стэнаграмы мала каму цікавыя, то аўтар уключыў у выданне і больш прывабныя рэчы — артыкулы аўтараў, якія разглядаюць смяротнае пакаранне ў больш шырокіх кантэкстах — ад рэлігійнага і сацыяльнага да культурніцкага.







Напрыклад, наколькі ўвогуле ўласціва беларусам плаціць злом за злое, ці ёсць смяротная кара ў традыцыях беларусаў? Шмат кажацца пра злачынцаў, якія прысуджаныя да смяротнага пакарання, аднак найчасцей забываецца пазіцыя іх ахвяраў. Што дзяржава робіць для іх абароны і рэабілітацыі, і ці робіць нешта ўвогуле? Як ставіцца да буйных злачынстваў, кшталту тэрактаў — ці патрэбна пакінуць для іх смяротнае пакаранне?

Гэтыя ж праблемы закранутыя і ў другой кнізе Валерыя Філіпава «Каму патрэбна смяротнае пакаранне?», прэзентаванай на канферэнцыі. Кніга выйшла з друку месяц таму. І вось тут ужо — аўтарскія разважанні Валера Філіпава, а таксама шмат цікавых лічбаў.

Напрыклад, тэрарызм. Патрабаванне смерці для тэрарыстаў выглядае найбольш бясспрэчным. Але, як адзначае Валер Філіпаў, ёсць да праблемы і іншыя падыходы. Напрыклад, Сенат ЗША нават пасля атакі «Аль-Каіды» на «вежы-блізняты» адмовіўся патрабаваць для тэрарыстаў смяротнае пакаранне. Чаму? Таму што гэта, на думку Сената ЗША, не выкліча нічога, апроч «гераізацыі» тэрарыстаў і паўтарау тэрарыстычных атакаў у будучыні.

Асобна ў кнізе разбіраюцца праблемы смяротнага пакарання, напрыклад, за наркотыкі. Увогуле, як адзначыў Філіпаў, «гэтая праблема і праблема алкагалізацыі хвалюе мяне таксама, як і генеральнага пракурора». 70% цяжкіх злачынстваў і забойстваў, адзначае Філіпаў, здараюцца ў стане алкагольнага ап'янення, прычым злачынца і ахвяра часцяком пілі разам.

Спыняецца аўтар і на папулярнай тэзе аб «негатоўнасці грамадства да адмены смяротнага пакарання». Справа ў тым, што згодна з міжнароднымі даследаваннямі, у прыбытнасці ААН, Беларусь з'яўляецца краінай з адным з самых нізкіх узроўняў па індэксу злачыннасці ў былых краінах СССР і ўвогуле ў Еўропе. Так, у Беларусі паказчык забойстваў роўны 4,9 на сто тысяч насельніцтва. Для параўнання: у Расіі — 11,2, у Казахстане — 10,7, нават у маленькай і мірнай Эстоніі — 5,2, а ў «звышбагатых» ЗША — 5.

Да таго ж, колькасць «гвалтоўных злачынстваў» у нас зніжаецца. Але гэта ўсё звязана не толькі з наяўнасцю смяротнага пакарання, а з пакараннем увогуле. Як адзначыў Філіпаў, на ўзровень злачынства ўплывае рост дабрабыту народа. Па-першае, той, хто можа зарабіць, не пойдзе рабаваць. Па-другое, зараз амаль бессэнсоўна пільнаваць ахвяру ў цёмных кутках: большасць грамадзян, якія маюць грошы, не носяць іх у раздутых гаманцах, а трымаюць на банкаўскай картцы. І прасцей «хакнуць карту» (што не з'яўляецца злачынствам, звязаным з гвалтам і забойствам), чым кагосьці забіваць.

Таму, на думку Філіпава, Беларусь з нізкім узроўнем цяжкай злачыннасці магла б абысціся і без смяротнага пакарання. Гэтым яна прадэманструе гуманізм і «дарослы» ўзровень грамадства.

Яшчэ на адну праблему падчас абмеркавання кніг Філіпава звярнуў увагу доктар юрыдычных навук, былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў. Кажучы прыемныя словы аўтару, ён адзначыў: галоўная мэта пакарання — гэта перавыхаванне злачынцы. Смяротнае пакаранне не выпраўляе злачынцу, бо ўжо няма каго выпраўляць.

Меркаванне Міхаіла Пастухова выклікала даволі нечаканы аргумент падтрымкі з боку ксяндза Мікалая Ціхановіча. Пазіцыя хрысціянскіх цэркваў палягае ў тым, што жыццё дадзена Богам, і не дзяржаве яго адбіраць. Але ніхто не задумваўся над тым, што, па вызначэнні царквы, нашае жыццё — толькі «падрыхтоўка да ўступлення ў Валадарства Божае». Адбіраючы ў чалавека жыццё, дзяржава не дае яму пакаяцца, асэнсаваць вялікі грэх, які зрабіў забойца, і пазбаўляе таго самага «Божага Валадарства», фактычна аддаючы несмяротную душу ў пекла. Што таксама ёсць грэх, ці не горшы, чым здзейснены забойствам.

Увогуле, як ні дзіўна, «тэалагічная» частка аргументаў супраць смяротнага пакарання выклікала найбольш спрэчак падчас прэзентацыі кніг. Прынамсі, ніколі не думаў, што ў Акадэміі міліцыі так старанна вывучаюць Біблію. Асноўны «закідон» у бок Філіпава быў, што ён падыходзіць да Вечнай Кнігі як да звычайнага закону, калі новы закон спыняе дзейнасць старога. А Новы Запавет з ягонай ідэяй гуманізму і святасці чалавечага жыцця зусім не адмяняе Старога Запавету і прынцыпу «вока за вока».

Ізноў святары не засталіся ўбаку, бо Біблія якраз і ёсць сведчаннем таго, як чалавецтва ідзе да гуманізму. Калі пісаўся Стары Запавет, прынцып «вока за вока» быў надзвычай прагрэсіўны, бо тады «за вока» помсцілі да сёмага калена. А потым і гэты прынцып састарэў, чаму і ёсць сведчаннем Новы Запавет з ягонай каштоўнасцю чалавечага жыцця.

Карацей, тут ёсць пра што разважаць доўга і старанна. Праблема, канешне, няпростая, але і казаць пра тое, што да адмены ці мараторыя на смяротнае пакаранне грамадства не гатовае — не варта. Хутчэй, да гэтага не гатовы парламент і прэзідэнт. А яны яшчэ — не ўвесь народ.




# Год афрыканскага Майдану

Алег НОВІКАЎ

**Пераварот у Буркіна-Фасо, як лічаць спецыялісты, з'яўляецца пралогам серыі рэвалюцый, што могуць скалануць Афрыку ўжо ў наступным годзе.**

Масавыя вулічныя пратэсты ў Буркіна-Фасо супраць аўтарытарнага рэжыму прэзідэнта Блэза Кампаорэ, які здолеў утрымацца ва ўладзе з 1987 года, не засталіся без увагі ў суседніх краінах. Пасля таго, як «дастойныя людзі» (Буркіна-Фасо перакладаецца як «краіна дастойных людзей») зрынулі свайго прэзідэнта, лідары шматлікіх афрыканскіх дзяржаў адчуваюць сябе не вельмі ўтульна.

Паралелі з Буркіна-Фасо ўзнікаюць самі сабой. Як вядома, прычынай масавага выхаду людзей на вуліцы стаў намер Кампаорэ ў чарговы раз балатавацца ў прэзідэнты (да таго ён ужо займаў гэту пасаду 4 разы — па 7 і 10 гадоў). Паколькі канстытуцыя абмяжоўвае колькасць кадэнцый аднаго чалавека на пасадзе прэзідэнта, Кампаорэ выдумляў розныя манеўры, каб абыйсці закон, што ўрэшце і справакавала пратэст.

Між тым, па сутнасці ў кожнай краіне Афрыкі назіраецца практыка, калі ўрад намагаецца як мага даўжэй заставацца пры ўладзе, падганяючы пад свае інтарэсы нормы асноўнага закону. Такім чынам, як піша прэса, праблема павагі да канстытуцыі і закладзенага ў ёй прынцыпу ратацыі ўлады становіцца адной з самых актуальных для рэгіёну.

Хаця на самай справе апісаная праблема вельмі старая. Практыка падгонкі асноўнага закона пад палітычную кан'юнктуру ўсталявалася на чорным кантыненце прыкладна напрыканцы 1960-х гадоў. І вельмі часта — з санкцый Захаду або СССР — геапалітычных патронаў мясцовых рэжымаў падчас халоднай вайны. Вайна завяршылася, а практыка захавалася, увайшла ў традыцыю.

Прычым сцэнары паўсюдна вельмі падобныя. Падчас масавых пратэстаў супраць дыктатуры палітыка А да ўлады прыходзіць палітык Б, які на хвалі народнага ўздыму ахвотна лабіруе супердэмакратычную канстытуцыю. Аднак хутка параграфы канстытуцыі пачынаюць перашкаджаць палітыку Б, і той пачынае яе рэвізію ў аўтарытарнай рэдакцыі, што паступова матывуе людзей на чарговы пратэст. І зноў гісторыя паўтараецца.

На першым месцы ў хіт-парадзе самых папулярных аўтарытарных мадыфікацый канстытуцый — штучнае павелічэнне тэрмінаў кадэнцый. На другім — выдаленне артыкулаў, якія абмяжоўваюць для канкрэтнай асобы колькасць тэрмінаў знаходжання на пасадзе прэзідэнта. На трэцім — абмежаванне за кошт канстытуцыйных паправак магчымасцей апанентаў. Звычайна прыдумляюць розныя новыя крытэрыі для кандыдатаў у прэзідэнты, якія пазбаўляюць канкрэтнага лідара апазіцыі права балатавацца.

У прынцыпе, такія фартэлі ўлады ніколі не падабаліся грамадству, аднак пасля Буркіна-Фасо тэма паправак да канстытуцыі набыла для афрыканцаў вельмі важны характар. Відавочна, што цяпер рэвізіі галоўнага заканадаўчага акту сутыкнуцца з актыўнай незадаволенасцю ў грамадстве. Як вынік, у Афрыцы ствараецца напружаная сітуацыя, падобная на тую, што была ў арабскіх краінах напярэдадні так званай «арабскай вясны», калі ўсялякая электаральная кампанія можа вырвацца за межы сцэнару, спланаванага тым ці іншым мясцовым «гарантам».

Якім краінам непасрэдна пагражае чорны Майдан? Такіх у Афрыцы нямала. Перш за ўсё, гэта краіны, дзе доўгі час пры ўладзе застаецца адна і тая ж асоба. У Зімбабве, Угандзе, Камеруне, Анголе лідары не мяняліся на працягу больш за 30 гадоў. У Гамбіі, Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга, Алжыры ратацыі на вышэйшай уладнай пасадзе не адбывалася больш за дзве кадэнцыі. Да групы рызыкоўных краін можна аднесці таксама Тога, Эрытрэю, Нігер, дзе ўлады запусцілі механізм недэмакратычных канстытуцыйных рэформаў. Масавыя бунты чакаюцца ў краінах, дзе на бліжэйшы час запланаваныя прэзідэнцкія выбары, — Бурундзі, Руандзе, Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга, Конга.

**Старт афрыканскага Майдану прагназуюць на ліпень 2015-га, калі адбудуцца выбары ў Бурундзі, дзе прэзідэнт пры ўладзе ўжо 10 гадоў**

Падаецца, самі лідады пералічаных краін ужо хварэюць на «сіндром Буркіна-Фасо». Інакш бы афіцыйныя СМІ ў Конга і суседняй Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга не блакавалі навіны аб пратэстах «дастойных людзей». Прафілактычныя меры супраць магчымага Майдану часам відавочна выходзяць за межы разумнага. Напрыклад, у Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга ўжо звольнілі ўсіх радыё-дыджэяў, якія ў сваіх каментарах узгадвалі пра падзеі ў Буркіна-Фасо. Дырэктарам станцый пагражаюць пазбаўленнем ліцэнзій у выпадку інфармавання аўдыторыі аб падзеях на радзіме Блэза Кампаорэ.

Старт цыклу чорнага Майдану прагназуецца на ліпень наступнага года, калі адбудуцца выбары ў Бурундзі, дзе цяперашні прэзідэнт пры ўладзе ўжо 10 гадоў. Кульмінацыяй «афрыканскай вясны» могуць стаць выбары ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга, якія прызначаныя на снежань 2016 года. Тут апазіцыя мае вайсковыя фракцыі, якія вядуць партызанку. Праўда, чорны Майдан можа пачацца значна хутчэй, напрыклад, з-за пашырэння арэалу эпідэміі Эбола, якая не толькі разбурае грамадска-дзяржаўныя інстытуты, але і падрывае аўтарытэт улады.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ёханэс Клаўс



Ёханэс Клаўс стаў новым прэзідэнтам Румыніі пасля таго, як сенсацыйна перамог у другім туры сацыял-дэмакрата Віктара Понта. Нагадаем, што ў першым туры Понта з 40 адсоткамі галасоў на 10 пунктаў быў наперадзе Клаўса. Аднак дзякуючы падтрымцы выбаршчыкаў кандыдатаў, якія правалiліся ў першым туры, Клаўс здолеў перамагчы. На думку шматлікіх экспертаў, вынікі галасавання адкрываюць новую старонку ў гісторыі Румыніі па той прычыне, што Клаўс — не этнічны румын. Яго продкі пераехалі сюды з Германіі. У дадатак новы румынскі гарант — вернік пратэстанцкай царквы, у той час як большасць румынаў пераважна праваслаўныя. На думку аналітыкаў, выбар на карысць Клаўса азначае ў тым ліку адмову румын ад геапалітычных амбіцый — ад праекта інкарпарацыі Малдовы і ўкраінскай Букавіны на карысць будаўніцтва нармальнай еўрапейскай дзяржавы. Прынамсі, так можна меркаваць з улікам таго факту, што Понта спрабаваў абвінаваціць Ёханэса ў абыякавасці да лёсу Малдовы і Букавіны. Праўда, да канца не зразумела, хто атрымае бонусы ад новай румынскай дыпламатыі, якой будзе нецікавы ўсходні вектар: Кіеў, які баіцца прарумынскага сепаратызму ў Букавіне, або Масква, якая жадае прытармазіць інтэграцыю Малдовы ў склад ЕС.



### Нурсултан Назарбаеў

Прэзідэнт Казахстана праявіў ініцыятыву і, не чакаючы запланаванай на пачатак 2015 года даты звароту да народа, выступіў з адпаведнай прамовай на мінулым тыдні. Ён заявіў, што найбліжэйшыя гады для краіны і свету стануць «часам глабальных выпрабаванняў». У якасці выратавання, лідар Казахстана прапанаваў народу новую эканамічную палітыку. Яе сутнасць ў тым, што нязменны прэзідэнт краіны гатовы вылучыць больш грошай для насельніцтва краіны, уключна з маштабнымі інвестыцыямі ў інфраструктуру і сацыяльную сферу. Напрыклад, Назарбаеў даручыў на працягу трох гадоў вылучаць штогод у дзяржаўны бюджэт з «Нацыянальнага фонду» да 3 мільярдаў долараў. Грошы пойдуць на рамонт школ, мадэрнізацыю інфраструктуры ЖКГ, крэдытаванне малога і сярэдняга бізнесу, развіццё інфраструктуры і дарог. А галоўнае, прэзідэнт Казахстана паабяцаў не змяншаць памер заробкаў і пенсій, разам з захаваннем ужо існуючага сацыяльнага пакета. Прэса піша, што Назарбаеў спрабуе купіць лаяльнасць насельніцтва сваёй краіны ў перыяд, калі будзе адбывацца не толькі пагаршэнне эканамічнай кан'юнктуры, але і змена ключавога геапалітычнага партнёра — з Масквы на Пекін. Праўда, што атрымаецца ў выніку, з улікам казахскай карупцыі, цяжка прагназаваць.

### Пётр Сіманенка



Старшыня Кампартыі Украіны (КПУ) у чарговы раз здолеў утрымацца на сваёй пасадзе, нягледзячы на катастрафічны правал на апошніх парламенцкіх выбарах (калі КПУ ўпершыню ў гісторыі не прайшла ў Вярхоўную Раду), на раскол унутры партыі, пагрозы яе забараніць з-за падтрымкі паўстання ў Данбасе. 17 лістапада ў Кіеве адбыўся пленум КПУ, які вырашыў, што альтэрнатывы Сіманенку на цяперашні момант папросту няма, хаця частка ўдзельнікаў паседжання патрабавала адстаўкі лідара. Сіманенку прыгадалі таксама і раскол фракцыі КПУ ў парламенце, ліквідацыя якой з-за адсутнасці патрэбнай колькасці сяброў дапамагла партыі Майдану больш лёгка праводзіць свае законапраекты. Ёсць чуткі, што за выхад з фракцыі кожны дэпутат-камуніст атрымліваў ад майданаўцаў каля 300 тысяч долараў. Аднак, нягледзячы на кампрамат, большасць наменклатуры КПУ падтрымала Сіманенку. Такую парадаксальную пазіцыю кіраўніцтва партыі тлумачаць выключна тым, што Сіманенка захаваў у сваіх руках фінансавыя рэсурсы і сувязі са структурамі на месцах. Таксама не выключаюць, што ў лідарстве Сіманенкі зацікаўлены прэзідэнт Парашэнка. Абодва палітыкі жывуць у суседніх катэджах, а сама КПУ, па чутках, даўно ўжо прададзеная Пятром Сіманенкам шакаладнаму каралю.

21 лістапада 2014 | № 44 (413) Новы час

# Прасторы Адама Глобуса

**Напэўна, Адама Глобуса можна назваць самым спрэчным прадстаўніком беларускага бамонду... Напэўна, шмат хто палічыць яго занадта натуралістычным... Напэўна, нехта нават абвінаваціць у адсутнасці маралі...**

**Не буду нікога пераконваць. Адзначу толькі, што прэтэнзіі пры жаданні можна выставіць кожнаму з нас. Галоўнае, на мой погляд, тут зусім іншае. Адам Глобус не мімікруе згодна з сітуацыяй, а шчыра робіць тое, што лічыць неабходным.**

**Нават калі гэта некаму і не падабаецца...**

**Аляксандр Тамковіч**



## «Лагернае» дзяцінства

Вельмі гэтым ганаруся. Мне пашанцавала нарадзіцца на Замкавай (Кальвінскай) гары ў Дзяржынску. Радзільны дом знаходзіўся менавіта там. Маці, Ніна Уладзіміраўна Глобус, успамінала, што 29 верасня 1958 года было цудоўнае сонечнае надвор'е.

Глобус — яе сапраўднае прозвішча, а другую частку творчага псеўданіма я «пазычыў» у бацькі — Вячаслава Уладзіміравіча Адамчыка. Калі бацькі становяцца вядомымі, дзеці заўсёды імкнуцца адрозніваца — каб ніхто не казаў пра «эксплуатацыю прозвішча».

Першыя тры месяцы мы жылі ў бабы Ядзі (маміна маці), а потым перабраліся ў Мінск, дзе і жыву па сённяшні дзень.

Брата Міраслава «купілі» (шчыра гэтага хацеў) у 1965 годзе, калі я пайшоў у першы клас. Памятаю, калі суседзі жартавалі, што «коцік Мурзік быў бы лепш», вельмі крыўдаваў.

Многія лічаць, што ў сына знакамітага пісьменніка ўжыцці ўсё павінна быць лёгка і проста.

Даволі распаўсюджаныя памылка, бо знакамітым пісьменнікам мой бацька стаў потым, а тады быў малавядомым журналістам, чалавекам, якога выключылі з універсітэта за тое, што ён адаслаў сваё апавяданне ў беластоцкую газету «Ніва». Выгналі, дарэчы, з пятага курса. Я кажуць, не далі скончыць, і таму яго «вышэйшай адукацыяй» сталі толькі курсы ў Літаратурным інстытуце імя Горкага.

Калі бацька вучыўся ў Маскве, мы з маці жылі ў Мінску, на Чарнышэўскага, 7. Амаль насупраць сённяшняга офіса БНФ. Гэта быў пісьменніцкі дом. У маім пад'ездзе жылі Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, драматург Махнач з жонкай Маяй Міхайлаўнай Клімковіч (дачкой аўтара беларускага гімна), Міхась Лявонавіч Стральцоў, Язэп Пушча, Іван Пташнікаў.

Словам, асяроддзе было цалкам беларускім, што не зусім характэрна для тутэйшага грамадства.

Пачаў я вучыцца ў 73-й школе — звычайная, то бок без розных ухілаў. Плюсам з'яўлялася блізкасць да цэнтру, таму ўзровень быў больш-менш. А мінусам стала тое, што настаўніцай у нас была казачка, якая не ведала беларускай мовы, і калі я прынёс дамоў сшытак, дзе было напісана: «Кравец крыет кроўлю. Шыбенік устаўляет шыбы», бацькі паднялі скандал на ўсю школу. Аказалася, настаўніца думала, што беларуская мова вельмі простая і прымітыўная. Маўляў, яе можа выкладаць любы, хто пажадае...

Даволі хутка замест генеральскай жонкі, якой была тая казачка, нам далі іншага настаўніка. Былога вязня сталінскіх лагераў, аб чым гаварылі амаль шэптам. Ён прыносіў кніжкі-чытанкі і ўслых чытаў казкі. Гэта дазваляла дзецям пастаянна папаўняць новымі словамі свой лексікон, і даволі хутка наша беларуская мова стала, як кажуць, «на ўзроўні».

Потым бацькі атрымалі новую кватэру, і мы пераехалі ў раён Кальварыі, на Апанскага, 68. Там я трапіў (без перабольшвання) у жудасную школу. У класе было больш за пяцьдзесят чалавек, а наша «трэцяя змена» пачыналася ў 16.15. Сядзелі па тры чалавекі за партай. Тлумачылася ўсё вельмі проста — пабудавалі новы гарадскі раён, а пра школу «не падумалі».

Тады гэта лічылася акраінай Мінска. Адразу за праспектам Пушкіна было поле, па якім зімой мы каталіся на лыжах, а там, дзе зараз месціцца кінатэатр «Аўрора», знаходзілася вёска Цівалі. У ёй жыў будучы скульптар Вова Жбанаў.

Паўтаруся, школа была проста жудаснай. З майго класа восем чалавек села ў турмы. Кантынгент быў амаль бандыцкім. Як прыклад, у аднаго з маіх аднакласнікаў (сёмы клас быў) бацька выпадкова забіў маці. Хлопчык прыбег у школу і сказаў: зараз прыйдзе міліцыя і будзе задаваць пытанні, скажыце, што вы нічога не чулі, бо, калі забяруць бацьку, нас (у яго дзве малодшыя сястры) накіруюць у інтэрнат. Ніхто з класа міліцыянерам нічога не сказаў...

У школе пашанцавала толькі адзін раз. Мяне паслалі ў «Артэк». Сядзеў там на ўроку і адчуваў, што ўсё сказанае настаўнікам разумею, і потым, каб разабрацца, не трэба чытаць падручнік. Узровень там, у адрозненне ад нашай школы, быў вельмі высокі, настаўнікі суперскія. Вучыцца вельмі спадабалася, я нават напісаў цэлую аповесць «Архіпелаг «Артэк».

Аднак лагер ёсць лагер. Усё хатняе цалкам забіралі. Свайго не было нічога. Выдавалі форму, і ты як бы станавіўся новым чалавекам. Але гэта было толькі вонкава. Імгненна паявіліся нейкія групы, зямляцтвы, іерархія. Менавіта там я і зразумеў, наколькі рознымі былі дзеці. Розны менталітэт. Калі для Сярэдняй Азіі падзел людзе на «рабоў і баяў» — звычайная справа, то для беларусаў, якіх у нашай дружыне было за семдзесят, — не.

Дарэчы, на маю просьбу даць падручнікі на беларускай мове, там адразу ўсё знайшлі...

У лагеры нельга было казаць «Здравствуйте!», да 12.00 — «Доброе утро!», пасля дванаццаці — «Добрый день!», а пасля вячэры — «Добрый вечер!». Хадзіць па лагеру дазвалялася толькі «ў нагу».

Па выніках мне далі пасведчанне інструктара ігры на барабане і горне, і я павінен быў у сваёй школе арганізаваць адпаведныя групы. Фармальна так і стала.

## «Акадэмічнае» юнацтва

Адразу пасля восьмага класа аддаў свае дакументы ў мастацкую вучэльню. Там выказалі здзіўленне, што ў атэстаце па маляванні стаіць «прочырк». Гісторыя тут была такой. На адным з заняткаў я паслаў школьную настаўніцу па маляванні «на тры літары», а яна мне ў адплату пракрэсліла адпаведную графу атэстата. Прызнацца прыёмнай камісіі ў гэтым было соромна, таму прыйшлося зноў звяртацца ў школу і прасіць, каб паставілі нейкую адзнаку.

У нашай школе, дарэчы, вельмі складаныя адносіны з настаўнікамі былі ва ўсіх. Я не піў дэманстратыўна на ўроках «чарнілаў», як іншыя, але джэнтльменскі набор у выглядзе ножыка, салдацкага рэменя і ліхтарыка насіў з сабой заўсёды. Гэта было абавязковым, як партфель або падручнікі.

У нашу школу прывозілі дзяцей з вёсак Кунцаўшчына і Бараноўшчына, і, каб дабегчы да аўтобуса ў цёмны час па гразі, усе былі з ліхтарыкамі. Хутка з ліхтарыкамі хадзіла ўся школа. Доўгія такія, на тры батарэйкі, літоўскай вытворчасці. Ліхтарыкамі добра было біцца.

Успамінаю адзін жудасны выпадак. Настаўніца па рускай мове нешта пісала на дошцы, а адзін з вучняў вадзіў па яе дупе промнем. Увесь клас пачаў смяяцца. Яна павярнулася і ўсё ўбачыла, выхапіла ліхтарык і — па галаве. Рассекла да крыві. А потым павалакла хлопца ў прыбіральню і засунула галаву ва ўнітаз.

Жудасна...

...У мастацкай вучэльні ў сваe 15 год я раптам стаў дарослым, што надзвычай спадабалася. Вельмі добрыя настаўнікі, вельмі моцная група. Многія ў будучым сталі вядомымі людзьмі. Са мной, напрыклад, вучыліся Алесь Лось, які потым стварыў батлейку, аднавіў беларускія дуды і рэстаўраваў шмат фрэсак і жывапісу, Вова Сцепаненка, які зараз стаў публіцыстам і пісьменнікам Уладзімірам Сцяпанам, і іншыя.

Бацька ў той час працаваў у часопісах «Полымя», «Маладосць», на «Летапісу», потым узначальваў сцэнарную секцыю Беларусьфільма. Заўсёды ставіўся да гэтай рэчы, як і я — адпрацоўка. І не больш.

Асноўнымі былі раманы, апавяданні, то бок тое, што друкаваў «Новый мир», які на той час быў часопісам нумар адзін, дзе друкаваліся Салжаніцын і Быкаў. Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі пісаў у лістах, што вельмі захапляецца яго прозай, і бацьку гэта надзвычай натхняла.

Пасля чатырох гадоў вучэльні я паступіў у Акадэмію мастацтваў на самае тады прэстыжнае манументальнае аддзяленне. За прэстыжам стаялі каласальныя грошы. Каб уявіць памеры, магу, напрыклад, расказаць, што вядомы мастак Кішчанка атрымаў замову аздобіць габеленамі оперны тэатр на мільён савецкіх рублёў. Нагадаю, інжынеры тады атрымлівалі ў месяц 120–130 савецкіх рублёў, акадэмікі — 500, а тут — фантастычная сума.

Адпаведна, у гэтай прафесіі была вялікая канкурэнцыя і вельмі складаныя адносіны паміж людзьмі. Канкурэнтаў мастадонты накшталт Савіцкага, Кішчанкі, Вашчанкі знішчалі на ўзроўні вучобы ў Акадэміі. Быццам бы набіралі, быццам бы ўсіх любілі...

Аднак з тых, хто трапляў у студэнты, да выпуску даходзілі адзінкі. Прыкладна, адзін з сямі. У некага здавалі нервы, нехта разумеў, што «з'ядуць», і сам адыходзіў у бок, нехта не вытрымліваў і хварэў.

Карацей, канкурэнцыя была вельмі жорсткай. Я ўжо пісаў, што Люду Русаву, якая вучылася са мной, таксама б выгналі, але не маглі гэта зрабіць, таму што яна адна заставалася на цэлым курсе.

Вучыцца было вельмі цяжка, але мне падабалася, што сярод маіх выкладчыкаў былі неверагодна таленавітыя людзі. Катастрафічна жорсткія, зайздрослівыя, але фантастычна таленавітыя. У таго ж Вашчанкі, напрыклад, карціны віселі ў Траццякоўскай галерэі. Алег Уладзіміравіч Хадыка, які ў нас выкладаў архітэктурную кампазіцыю, — стваральнік рэстаўрацыйных майстэрняў, і многае з таго, што ёсць у сучаснай Беларусі са старой архітэктуры, захавалася дзякуючы менавіта гэтаму чалавеку.

Пад канец вучобы я таксама стаміўся змагацца за «месца пад сонцам», думаў, што сыду з дыстанцыі і нічога не скончу. Выратаваўся «акадэмкай».

Яшчэ калі вучыўся, я крыху займаўся рэстаўрацыяй, таму ў «акадэмічным адпачынку» і абраў яе. Мы рэстаўравалі Мсціслаўскі касцёл, 350 кіламетраў ад Мінска, на мяжы з Расіяй. Наколькі я ведаю, аднаўленчыя работы працягваюцца па наш дзень. Добра, там ёсць браты Маліноўскія, якія не даюць гэтай справе канчаткова спыніцца. Проста няма сродкаў. У Мсціславе вельмі малая каталіцкая абшчына, а Ватыкану, напэўна, больш важна пабудаваць нешта новае ў Іркуцку, скажам, чым адрадзіць беларускую спадчыну...

Праз год я вярнуўся да вучобы і абараніў дыплом з рэлігійна-правакацыйнай на той час назвай «Дзева Марыя».

Выкладчыкі параілі на абароне не гаварыць па-руску, таму што там будуць «людзі з Масквы і Ленінграда».

Так бы мовіць, з горам удалося абыйсці ідэалагічныя догмы і абараніцца. Мне паставілі «тры» і сказалі: «Ніколі ні адной тваёй карціны ніхто не купіць, не будзе ніводнай выставы і ніякіх дзяржаўных замоваў». За «авангардызм, хамскае ігнараванне патрабаванняў кафедры і нянавісць да сацыялістычнага рэалізму».

## «Эпатажнае» сталенне

Добрыя людзі дапамаглі спачатку ўладкавацца на часовае журналісцкае месца ў часопіс «Беларусь», дзе я друкаваўся пад псеўданімамі Лучанок, Анікейчык, Янкоўскі. Усе гэтыя прозвішчы (кампазітар, скульптар і артыст — А.Т.) добра вядомыя ў нашай краіне, аднак не прыжыўся я ў тым часопісе.

І стаў афарміцелем камісійных крамаў. Афармляў у іх вітрыны, пісаў літары «М» і «Ж» на прыбіральнях і таму падобнае. Працаваў у майстэрнях даволі доўга. Пачаў пісаць, друкавацца.

У гэты час ад першай жонкі Тамары, з якой мы вучыліся ў адной групе, у мяне нарадзілася дачка Вольга.

Другой жонкай стала фотамайстра Алена, якую сёння ведаюць як Алену Адамчык. Яна нарадзіла мне дачку Ядзю, і ў нас ёсць яшчэ сын Мікалай, у якога ўжо ёсць свой сын Уладзімір.

Вольга — матэматык. Прачытаў у інтэрнэце назву яе дыпломнай — і нічога не зразумеў.

Мікалай скончыў коласаўскі ліцэй, той самы, які толькі-толькі ствараўся. Дарэчы, я непасрэдна прымаў у гэтым удзел.

Памятаю, як у бібліятэцы Янкі Купалы сабраліся, акрамя мяне, Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Зміцер Колас і прыйшлі да высновы, што трэба рабіць нейкі адукацыйны прарыў і ствараць беларускамоўны ліцэй. Рэалізоўваць ідэю вырашылі даручыць брату Зміцера Уладзіміру. Потым там нават мая жонка Алена выкладала, праводзіла майстар-класы па фота.

Мікалай абсталёўвае кухні. Новабудоўляў у Мінску зараз шмат, таму для яго бізнесу кліентаў хапае.

Ядзя на момант нашай размовы знаходзілася ў Барселоне, дзе адкрылася фотавыстава Алены, якая прысвечана іспанскаму сюррэалізму. Мабыць, пойдзе маміным шляхам, і гэта вельмі добра. Там сапраўдны густ.

На жаль, жанр партрэтнага фота зараз крыху адышоў у цень. Так атрымалася, што сёння сталі фатографамі амаль усе. Між тым, зрабіць сапраўдны парадны партрэт, які будзе падабацца ўсім, правесці неабходныя падрыхтоўчыя работы вельмі складана. Патрэбны талент і кваліфікацыя экстра-класа.

Паколькі камісійныя крамы выдзелілі мне майстэрню, у яе пачалі заходзіць сябры і знаёмыя — Валодзя Арлоў, Лёня Галубовіч, Віця Шніп, Толя Сыс. Нават некалькі разоў бываў Міхась Лявонавіч Стральцоў. Перш за ўсё таму, што яна месцілася пад «Кнігарняй пісьменніка» на вуліцы Румянцава. Побач рэдакцыя «ЛіМа» і будынак Саюза пісьменнікаў. Людзі спачатку ішлі туды, а па вяртанні заходзілі да мяне.



У бацькоўскай кватэры. З маці Нінай Глобус. 2008 г.

Як і ў бацькі, яшчэ з часоў інстытута ў нашым асяроддзі ўсталявалася правіла: мастак (або пісьменнік) нешта павінен рабіць дзеля грошай, нешта для сацыяльнай адаптацыі, а самае галоўнае — для сябе. Як гаворыцца — для душы. Сумленна, не па законах грамадства, а па законах мастацтва. Не тыя, па якіх жывуць аўтарытэты тваіго часу, накшталт Заіра Ісакавіча Азгура, а па тых, якія для сябе ты выбраў сам.

Зразумела, уладзе гэта не падабалася па вызначэнні. Першая забарона вялікай выставы адбылася ў 1985 годзе. Разумеючы, што з Саюзам мастакоў непазбежна будуць праблемы, мы адразу вырашылі яе праводзіць у Саюзе пісьменнікаў, дакладней, у Доме літаратара. Справа ў тым, што партаргам пісьменнікаў тады быў Карамазаў, з якім у добрых адносінах знаходзіўся Стральцоў. Я пагаварыў са Стральцовым, Стральцоў з Карамазавым, Карамазаў — з Танкам. Той загадаў прынесці карціны. Мы прынеслі, развесілі. Танк паглядзеў — цікава. Паглядзелі «людзі ў цывільным» — і ўсё забаранілі. Больш як пяцьсот чалавек, якія прыйшлі на адкрыццё нашай выставы ў Дом літаратара, проста не пусцілі ў будынак. І тады, як кажуць, «пад ціскам грамадскасці» Саюзу мастакоў прыйшлося правесці выставу ў сябе. З той умовай, што на яе прыйдуць тагачасныя мастацкія аўтарытэты і агучаць свае думкі пра нас, нягоднікаў.

«Мы» — гэта шэсць маладых мастакоў. Акрамя мяне Ігар Кашкурэвіч, яго тагачасная жонка Люда Русава, Сяргей Малішэўскі, Жэня Ліс, стваральніца батлейкі ў Залессі, і Эдзік Куфко. Кашкурэвіч, Малішэўскі, Куфко — дзеці вядомых мастакоў, я — знанага пісьменніка.

Падкрэсліваю гэты момант спецыяльна, бо потым з дапамогай Анатоля Анікейчыка нас пачалі «гнобить» за выкарыстанне творчых псеўданімаў. Маўляў, мы не проста ворагі савецкага грамадства, а ворагі ўласных бацькоў: чаму Вова Адамчык называе сябе нейкім Глобусам, Кашкурэвіч падпісаўся як Кашкур, а Малішэўскі — Маліш?..

Напрамкі ніхто не казаў пра «здраднікаў Радзімы», але пра ворагаў савецкай улады прагучала. Міхаіл Андрэевіч Савіцкі, напрыклад, казаў, што мы «ліем ваду на млын капіталізму»...

Шчыра кажучы, я не думаў, што яны адважацца ўсё выказаць адкрыта ў твар. Адна рэч — «гадзіць» у кабінетах, і зусім іншая — рабіць гэта публічна. Афіцыйныя мэтры крычалі, махалі рукамі, агучвалі розныя глупствы. Напрыклад, той жа Савіцкі крычаў: «Кому надоел соцреализм? Кому противны «Девочка с персиками» или Веласкес?» Быццам бы сацыялістычны рэалізм і Веласкес — адно і тое ж...

Для некаторых у той год пачалася перабудова, а для нас — вандэя. Яны не верылі ў нейкія змены ў грамадстве, а я гэта адчуваў. Як і тое, што іх трэба не толькі чакаць, а рэальна нешта рабіць.

## «Спрэчнае» жыццё

Тая выстава стала для маёй свядомасці пэўным каталізатарам. Няправільна лічыць, што пісьменнікам Глобус зрабіўся «раптам». Проста стала цалкам зразумела — нармальна працаваць мне не дадуць, бо ў савіцкіх-азгураў-анікейчыкаў улада, а ўсё жыццё з акадэмічнай адукацыяй пісаць на прыбіральнях «М» і «Ж», мякка кажучы, алагічна.

І тады я прыдумаў для сябе ход — буду пісаць не самі карціны, буду апісваць мастацкія паводзіны ў прозе і паэзіі, а наша цэнзура нічога не ўбачыць. Яна будуць думаць, што гэта толькі звычайнае апавяданне. І не больш.

Пачаў друкавацца яшчэ падчас маёй вучобы, то бок напрыканцы 1970-х. Гэта былі вершы, і іх нават пачалі перакладаць за мяжой. Потым пайшла проза, асноўнай тэмай быў канфлікт творчай асобы з грамадствам.

Спачатку гэта ўсё друкавалася без праблем, бо ўлада не бачыла для сябе пагрозы. У 1985 годзе цэнзура быццам бы прачнулася. Прама на выставе (якая не адбылася) рэдактар маёй першай кнігі «Груд» прынёс яе «сігнал» і сказаў — у гэтай краіне цябе ніколі друкаваць не будуць. Адбылося горш, чым простая забарона: кнігу ўжо вычыталі, надрукавалі, а потым па цэнзарскім патрабаванні ўвесь наклад пусцілі пад нож.

Прайшло шмат год, і Міхась Скобла расказаў, што бачыў яе ў асабістай бібліятэцы памерлага палкоўніка КДБ, якую распрадаваў яго сын. Патрыяцыйшы некалькі гадзін, мы так і не змаглі кнігу знайсці, і толькі бібліятэкарскі досвед маці дапамог мне ўрэшце гэта зрабіць.

Кніга стаяла побач з забароненымі творамі Салжаніцына і Шаламава, без вокладкі, са шматлікімі цэнзарскімі заўвагамі па ўсім тэксце. У КДБ заўсёды ўмелі шукаць крамолу.

Змагацца з тагачаснай імперыяй (у тым ліку і літаратурнай) можна было толькі знішчаючы яе з дапамогай створанага самастойна. Паўсюль існавалі рангі, ранжыры, катэгорыі. Напрыклад, «пачынаючымі пісьменнікамі» тады лічыліся ўсе, каму менш за 36 год і ледзь не да 60-ці ты лічыўся «маладым». Як кажуць — смех і грэх. Памятаю, высветлілася, што ў Санкт-Пецярбурзе сярэдні ўзрост мясцовых пісьменнікаў 66 год. Яны былі вымушаны нават маладзёжную секцыю стварыць.

Я даведаўся пра піцерскі досвед, прывёз адтуль усе іх дакументы і прапанаваў стварыць нешта сваё. Тое, што адпавядае нашаму пакаленню. Так узнікла «Тутэйшыя». Юрыдычна мы былі пры Саюзе пісьменнікаў, аднак многія разумелі, што гэта толькі намінальна.

І не памыляліся, бо вельмі хутка мы выказалі пратэст кампартыі Беларусі і кіраўніцтву БССР, якое схавала наступствы Чарнобыля. І гэта была не незадаволенасць нейкай паўмаргінальнай тусоўкі, а афіцыйны юрыдычны дакумент афіцыйнай структуры. Быў травень 1988 года, і ўсе мы тады думалі, што проста не дойдзем дахаты, усіх перасадзяць.

Знакамітымі «Дзядамі» 1988 года для «Тутэйшых» усё і скончылася. Як толькі была пададзена заяўка, нас пачалі выклікаць у пракуратуру і мадэліраваць сітуацыю з забойствам людзей. Калі пра гэта даведаўся Анатоль Сідарэвіч, ён імгненна распаўсюдзіў інфармацыю на Бі-Бі-Сі, радыё «Свабода», «Нямецкай хвалі» і г.д. Хутчэй за ўсё, менавіта гэта і прадухіліла падрыхтаваную ўладамі крывавую правакацыю.

У гэты ж час я пачаў працаваць у створаемым Мішам Кацюшэнкам (па загаду Масквы) часопісе «Крыніца». Калі ЦК КПБ прыслала туды рэдактарам Някляева, ён адразу звольніў некалькі чалавек. У тым ліку мяне, Паўла Якубовіча і Косцю Тарасава. Потым высветлілася, што ніякага партыйнага загаду «зверху» няма, што ініцыятыва цалкам асабістая, і Някляеву прыйшлося мяне і Якубовіча аднавіць.

На тых «Дзядах» паявіўся новы палітычны лідар — Зянон Пазняк, і стала зразумела, што астатнія творчыя людзі павінны адыйсці ў бок. Грамадства зрабілася іншым. З маімі палітычнымі арыенцірамі (пераканаy анарха-індывідуаліст) у палітыцы новага часу больш не было чаго рабіць. Вабіла іншае.

Хацелася стварыць новую беларускую літаратуру, адкрыць новыя жанры. Наблізіць нашу літаратуру да кантэксту сусветнай. Напрыклад, у нас не было сваіх хайку (японскае трохрадкоўе), традыцый малявання коміксаў, не хапала беларускіх дэтэктываў. У якасці першага айчыннага комікса я зрабіў «Дзікае паляванне караля Стаха» і асабіста напісаў шэраг дэтэктываў. Апошнія так добра прадаваліся, што хутка прыйшлося адкрыць сваё выдавецтва і студыю па напісанні раманаў.

Тады быў час сапраўднага інфармацыйнага буму. Акрамя моды на публіцыстыку з'явіліся відэамагнітафоны і недаступнае раней амерыканскае кіно, з'явіліся раманы, якія раней не перакладаліся. Нарадзілася нейкая фенаменальная любоў да ўсяго, што раней было забаронена. Людзі з задавальненнем глядзелі фільмы жахаў, эротыку, трылеры і г.д. Раптам стала зразумела, што ў адрозненне ад палітычнай, сексуальную рэвалюцыю мы зробім дакладна.

Наша выдавецтва друкавала безліч усякай эратычнай прадукцыі і нават анекдоты на гэтую тэму. У студыі пісалі раманы па матывах кінасерыялаў. Таго ж 42-серыйнага «Твін Пікс», напрыклад. Усіх цікавіла, хто забіў Лору Палмер, і мы далі адказ. Я прыдумаў, як абагнаць тэлевізійны час, бо ў тыдзень яны паказвалі толькі дзве серыі. Трэба было хутка напісаць адпаведны раман, выдаць яго і прадаць. І мы гэта (з дапамогай сямі пісьменнікаў) зрабілі. Па нашай версіі Лору Палмер не забраў, як у фільме, касмічны Карлік, а проста забіў паганы шэрыф.

Спачатку мы выйшлі на расійскі рынак, потым на замежныя, а потым амерыканцы сказалі, што яны супраць, каб рабіліся такія рэчы. Амерыканскі амбасадар прыйшоў да Шушкевіча, і нас даволі хутка пазбавілі ліцэнзіі.

А гісторыя была такая. Мы напісалі восем працягаў «Знесеных ветрам», а яны — толькі адзін. Амерыканскім праектам кіраваў Тэд Цёрнар, які выкупіў у Галівуда чорна-белы варыянт фільма, расфарбаваў яго і зрабіў двухтомны працяг — «Скарлет». Праект быў фінансава паспяховым.

Яны нават уявіць не маглі, што мы напісалі яшчэ восем кніг і пачалі іх таксама добра прадаваць. Амерыканцы думалі, што ўсе друкаваныя версіі іх бясконцых серыялаў (накшталт «Санта-Барбары») зробленыя ў іх, а тут раптам высветлілася, што ўсё напісана ў Мінску. Падняўся вэрхал.

Амерыканцы знялі пра мяне і брата кіно, а ўсе газеты надрукавалі адпаведныя артыкулы і нават карыкатуры. Потым пачалі біць свае, то бок беларусы. Маўляў, пірацтва, парушэнне аўтарскіх правоў, хаця, на мой погляд, ніякіх законаў я не парушаў. Перш за ўсё таму, што наша краіна да іх яшчэ не далучылася.

Ціск ператвараўся ў пазбаўленне нас ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць. Вялікія грошы перамаглі...

На дадзены момант асабіста мной напісана 29 кніжак, а наогул наша выдавецтва паспела выдаць каля шасці тысяч найменняў, дзе самыя вялікія наклады даходзілі да чатырох мільёнаў.

Асобна магу расказаць пра свае складаныя адносіны з вядомымі людзьмі, тыпу Пятра Садоўскага і Станіслава Шушкевіча, аднак гэта тэма для асобнай размовы. Зараз скажу толькі, што мае «правакацыі» не знаходзілі б чытача, калі б ён гэтага не хацеў чытаць, і ўсе мы не казалі б адзін пра аднаго розныя гадасці.

**Аповед Адама Глобуса запісаў Аляксандр Тамковіч**



## Мінскі касцёл Святога Роха адзначыў 150-годдзе

**15 лістапада ў мінскай парафіі Найсвяцейшай Тройцы адбылося святкаванне 150-годдзя з дня асвячэння касцёла на Залатой Горцы.**

Урачыстую імшу з нагоды юбілею храма ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Святочная праграма пачалася малітвай падзякі з нагоды юбілею. Адбыліся гістарычная канферэнцыя «Залатагорская святыня», а таксама прэзентацыя памятнага альбома, прысвечанага храму. Перад прысутнымі выступіў залатагорскі хор.

«Сто пяцьдзесят гадоў таму, 1 лістапада 1864-га, у прыгарадзе Мінска быў асвечаны новапабудаваны храм у гонар Найсвяцейшай Тройцы і святога Роха», — нагадаў мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч падчас імшы, звяртаючыся да прысутных. Ён дадаў, што ў гэты дзень сэрцы вернікаў перапоўненыя радасцю, таму што касцёл на Залатой Горцы перажыў цяжкія часы ганенняў і некаторы час выкарыстоўваўся як зала камернай музыкі Белдзяржфілармоніі, але «ўрэшце зноў з'яўляецца месцам сустрэчы чалавека з Богам».

Мітрапаліт назваў храм на Залатой Горцы «помнікам нашай веры, малітвы і хрысціянскай традыцыі на нашай зямлі», месцам сустрэчы чалавека з Богам — у тым ліку ў канцэртах духоўнай музыкі, музычным фестывалі «Залатагорская ліра». Іерарх нагадаў, што з гэтай святыні па традыцыі пачынаецца працэсія Божага Цела, тут у Вялікі пост праходзіць інсцэніраваны Крыжовы шлях.

**catholic.by**

## Шэрлак Холмс загаварыў па-беларуску

**У бібліятэцы часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» і бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшаў зборнік апавяданняў Артура Конана Дойла «Прыгоды Шэрлака Холмса». Кніга ўжо ёсць у Цэнтральнай кнігарні, «Акадэмкнізе» і «Кнігах і кніжачках», а неўзабаве з'явіцца і ў іншых кнігарнях.**

«Шэрлаку Холмсу, гэтаму міфічнаму персанажу новага часу, які дагэтуль не дае спакою пісьменнікам, рэжысёрам і сцэнарыстам, не трэба нічога тлумачыць. Ён адразу бачыць, колькі ў вас дзяцей, што ў вас скралі і ці можна вас назваць шчаслівым. Не ва ўсіх гісторыях з гэтай кнігі расследуюцца заблытаныя злачынствы, але Шэрлак Холмс ведае: часам нават за просты справай стаіць сапраўдная таямніца, і разабрацца з ёй будзе не прасцей, чым з самым загадкавым забойствам».

У кнігу ўвайшлі пераклады, зробленыя Ганнай Янкута, Аленай Казловай, Аленай Пятровіч, Кацярынай Маціеўскай, Аляксеем Арцёмавым. Прадмову да зборніка напісала Кацярына Маціеўская. Дызайн вокладкі — Марыя Мухіна. Некаторыя апавяданні са зборніка друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «ПрайдзіСвет» і газеце «Літаратурная Беларусь», аднак гэта першае асобнае выданне твораў пра Шэрлака Холмса па-беларуску.

Раней у бібліятэцы «PostScriptum» выходзілі зборнікі дэтэктыўнага і містычнага апавядання «Злачынства, сэр!» і «Вусцішны пакой», зборнік выбраных твораў Эдгара По «Маска Чырвонай Смерці» і п'еса Оскара Уайлда «Саламея».

**prajdzisvet.org**

# Новы альбом гурта «Крама»: якасць і драйв

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**На бягучым тыдні адбылася прэс-канферэнцыя з нагоды выхаду новага альбома «Белая вада» найстарэйшага беларускага рок-гурта «Крама», у якой прынялі ўдзел самі музыканты, аўтары тэкстаў гурта Наста Гулак і Зміцер Лукашук, выдаўцы альбома з лэйбла «БМА group» і «Еўрарадыё», а таксама музычна-журналісцкі бамонд.**




У сваім уступным слове лідар «Крамы» Ігар Варашкевіч адзначыў, што некаторы матэрыял альбома «Белая вада» чакаў свайго часу каля дваццаці гадоў, хоць студыйная праца над ім доўжылася чатыры гады — рэкордны для гурта тэрмін. Ён бы мог расцягнуцца яшчэ больш, каб не дапамога гурта «Лепрыконсы» «Супер-8», які прадставіў сваю студыю ў самы адказны момант нараджэння кружэлкі. І хоць гурт «Лепрыконсы» знаходзіцца на іншым музычным полюсе і стылістычна амаль не перасякаецца з «Крамай», Ігар Варашкевіч шчыра дзякаваў лідару «Лепрыконсаў» Іллі Міцько за дапамогу і сяброўскае стаўленне.

Таксама было адзначана, што звядзеннем альбома «Белая вада» займаўся вельмі таленавіты і прафесіянальны гукарэжысёр, удзельнік ансамбля «Беларускія Песняры» А. Папроцкі, які фактычна стаў саўндпрадзюсарам альбома «Белая вада».

Што ж тычыцца музычнага напаўнення альбома, дык, па словах І. Варашкевіча, музыканты імкнуліся не здзівіць, а прадэманстраваць якасць музыкі і яе запісу. У прыклад ён прывёў творчасць свайго куміра — Дж. Фогерці (Creedence Clearwater Revival), які на працягу дзесяцігоддзяў радуе сваіх прыхільнікаў якаснай музыкай і якасным гучаннем, не зважаючы на модныя плыні ў року.

Таксама было адзначана, што на новым альбоме значна менш алкагольных (ці антыалкагольных) песень, а галоўнай тэмай альбома стала дарога, падарожжа, шлях да дому. «Бо калі ты цвярозы, ды можна і садзіцца за стырно аўто», — жартавалі музыканты. Аўтар тэкстаў Наста Гулак ужо сур'ёзна дадала, што дарога — гэта архетып жыцця, шлях трэба прайсці годна, каб заслужыць павагу людзей.

Шмат тэкстаў для гурта стварыў і журналіст Зміцер Лукашук, які распавёў, што некаторыя з іх былі прапанаваны І. Варашкевічу дзясяткі гадоў таму. Але тады яны нечым не спадабаліся, шмат гадоў праляжалі ў творчай шуфлядзе і толькі зараз, пасля таго, як настаяліся», сталі песнямі «Крамы»...

Мара музыкантаў «Крамы», адзначыў гітарыст Сяржук Труханові, — паехаць з новым альбомам у тур па Беларусі. Але ўсё будзе залежаць ад мясцовых чыноўнікаў, якія ведаюць/не ведаюць, любяць/не любяць песні гурта «Крама».

А пакуль што музыканты, выдаўцы і арганізатары канцэртаў шчыра запрашалі ўсіх прыхільнікаў беларускай рок-музыкі на канцэртную прэзентацыю альбома «Белая вада» гурта «Крама», які адбудзецца 28 лістапада ў Палацы культуры чыгуначнікаў, што па вуліцы Чкалава, 7.




## «Жанчына і леапард»

**Новая кніга Таццяны Барысік — адкрыццё ў беларускай жаночай прозе**

Зборнік апавяданняў — непрыдуманых гісторый — магілёўскай літаратаркі Таццяны Барысік «Жанчына і леапард» пабачыў свет у выдавецтве «Кнігазбор» у серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Большасць сюжэтаў, з якімі вы сутыкнецеся ў гэтай кнізе, — узятыя з нашага паўсядзённага жыцця. Беларуская правінцыя на мяжы тысячагоддзяў, клопаты, праблемы і радасці сучасных вяскоўцаў і гараджан, уся гама чалавечых пачуццяў знаходзяць сваё адлюстраванне ў невялікіх апавяданнях пісьменніцы.

Узор сучаснай жаночай прозы — лаканічна і дасціпна, захапляльна і філасафічна, з пранікненнем у псіхалагічныя таямніцы чалавечых стасункаў.

Таццяна Барысік — выпускніца Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, сябра ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», піша вершы і прозу. Друкуецца ў рэспубліканскай перыёдыцы, нізка апавяданняў увайшла ў зборнік «Жанчыны выходзяць з-пад кантролю» (Мінск, 2007).

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1568

Падпісана да друку 21.11.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.